Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 36 29 снежня 1995 года— 4 студзеня 1996 года ЦАНА 700 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Шчасця ў Новым годзе!

«РГ» задае пытанні

## Мы спадзяёмся, што ў наступным годзе жыць стане лепш, жыць стане весялей

***Яўгенія Чаброўская, мастацкі кіраўнік узорнага ансамбля песні і танца "Хажаўлянка", Маладзечанскі раён:***

—Мы хочам часцей ездзіць з канцэртамі. Два гады назад дзеці наведалі Санкт-Пецярбург: выступалі перад аднагодкамі, знаёміліся з гістарычнымі месцамі— атрымалі самыя яркія ўражанні. Сёння, каб ехаць куды-небудзь, трэба мець грошы, таму мы шукаем фундатара. Нас цікавяць, перш за ўсё, далёкія паездкі. У межах раёна нас добра ведаюць: удзельнікаў, рэпертуар. Пашырылі б геаграфію— калектыў чакаюць у Прыбалтыцы, на Украіне, але грашовыя пытанні самастойна вырашыць не можам. Каб хто дапамог стварыць матэрыяльную базу: пашыў касцюмы, набыў інструменты, апаратуру. Хай пацук прагрызе браню раўнадушша багатых і тыя павернуцца да нас тварам.

***Таццяна Саламонава, настаўніца нямецкай мовы СШ № 1 г. Ашмяны:***

—У нашай школе ўжо трэці год існуе клас з паглыбленым вывучэннем нямецкай мовы. Дэпутат Вярхоўнага Савета 12-13 склікання Анатоль Лябедзька дапамог наладзіць кантакты з гімназіяй у Германіі. Немцы ўжо сябруюць з навучальнымі ўстановамі Румыніі і Францыі. Вось было б добра, калі б адносіны паміж намі і немцамі пашырыліся, мацнелі. Я дваццаць гадоў аддала школе і першы раз у жыцці атрымала там практыку моўных зносін на працягу двух тыдняў. Мару яшчэ раз наведаць Германію са сваімі вучнямі.

***Стэла, лаўрэат трэцяга нацыянальнага фестывалю песні і паэзіі «Мінск-95», удзельніца "Славянскага базару":***

—Чакаю новых прапаноў у творчым напрамку: хачу працаваць з кампазітарамі, паэтамі, усіх любіць і быць каханай. У маі месяцы прыму ўдзел у нацыянальным фестывалі ў Гродне. Сумесна з паэтэсай Валянцінай Аколавай рыхтуем праграму, прысвечаную сумнаму юбілею Чарнобыля. Мяркую выпусціць магнітаальбом "Ты— падарунак мой". Не, гэта тычыцца не канкрэтнай асобы. Проста, калі чалавек, аматар эстрады, купіць касету, атрымае быццам падарунак ад мяне. Бачу, што зараз спытаеце, колькі будзе каштаваць той падарунак. Адказваю— не больш за іншыя магнітаальбомы. Я нарадзілася ў год казы і ўпэўнена, што ў год пацука мне абавязкова пашанцуе, бо гэтыя істоты чымсьці падобныя паміж сабою.

***Валерый Альшэўскі— загадчык аддзела моладзі Малаладзечанскага гарвыканкома:***

—Спадзяюся, што ў год пацука свінню ўжо больш ніхто не падкладзе. Бо я жанюся ў наступным годзе. Спадзяюся атрымаць жыллё. І безумоўна хачу, каб у маёй рабоце адбылося паляпшэнне. Сёння мы аддаём дзецям у карыстанне падвалы, а заўтра павінны аддаваць палацы (калі яны ў нас будуць). Усё лепшае— дзецям.

***Васіль САВІЦКІ***

Навіны рэгіёна

## "Супер-муж" з калгаса Ільіча, Баруноўскія "Мурашы": пошукі і знаходкі энтузіястаў

*АШМЯНЫ. На вытворчасці распрацоўваюць новыя тэхналогіі, новыя формы работы з кліентамі прапануе сфера паслуг. Працэс пошуку ідзе ў культуры і адукацыі. Што прапанаваць, выкарыстаць, каб непасрэдная работа з людзьмі была змястоўнай, цікавай і карыснай? У Доме культуры вёскі Крэйванцы Ашмянскага раёна лічаць: новае— гэта добра забытае старое.*

Работнікі Дома культуры імкнуцца даць жыццё старым абразам. Ну а хто, як не бабулі і дзядулі, могуць самі ў гэтым дапамагчы. Таму ўсё больш папулярнымі сярод вяскоўцаў становяцца "вечарушкі". За сталом з самаварам пад акардэон гучаць успаміны: якія танцы былі ў модзе, якія прычоскі насілі, хто каму падабаўся, хто каго кахаў. Адным словам, старыя людзі сярод сяброў жывуць хвілінамі сваёй маладосці.

Нядаўна ў Доме культуры прайшло свята для тых, хто працуе ў калгасе. Самым працавітым уручалі падарункі, прадугледзелі і залатыя медалі (з шакаладу) за доблесную працу. А для моладзі адбыліся конкурсы "Джэнтльмены фермы", "Супер-муж-95".

І ўсё гэта стала магчыма, дзякуючы ініцыятыве работнікаў клуба і падтрымцы (фінансавай таксама) старшыні калгаса Івана Дамінікавіча Плаўскага.

***

Сярэдняя школа вёскі Баруны Ашмянскага раёна сустрэла гасцей з усяго раёна. На базе школы прайшла метадычная вучоба па тэме: "Развіццё асобы праз самакіраванне, дзіцячыя арганізацыі".

Для маленькіх у школе дзейнічае арганізацыя "Мурашы", піянерская арганізацыя, а старшакласнікі аб'ядналіся ў клубе адукацыйнай накіраванасці "Эрудыт". Каардынуе работу школьных арганізацый намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Тэрэза Пятроўна Розель.

***Васіль САВІЦКІ.***

## Ёсць вілейскае масла. Будзе і вілейскае марожанае

***Замкнуты цыкл перапрацоўкі малака ажыццяўляе зараз Вілейскі малаказавод. Акрамя звычайнай малочнай прадукцыі, так неабходнай гораду, некалькі месяцаў таму пачаў выпускаць казеін, попыт на які вялікі, і не толькі сярод айчынных прадпрыемстваў, але і за мяжой.***

Апошняя навіна сезона— сваё, вілейскае масла, першыя тоны якога хутка разыйшліся ў рознічным гандлі. Раней вілейчане спажывалі масла, выробленае ў Барысаве. Але якасць вілейскага прадукта не горшая, хоць і існуе пагаворка, што першы блін камяком. Калі ж блін удаўся, то ў кіраўніцтва прадпрыемства шмат планаў па пашырэнню вытворчасці: будаўніцтва маслакамеры, пабудова новага цэха. Зараз на малаказаводзе асвойваецца новая прадукцыя— марожанае.

У новым годзе плануецца наладзіць выпуск цвёрдых сыроў, іншай прадукцыі.

***Таццяна МАРОЗ.***

## Кінасвята ў дні канікул

***МАЛАДЗЕЧНА. Міжраённае аб'яднанне кінапракату сумесна з маладзечанскім кінатэатрам "Радзіма" падрыхтавала для школьнікаў сапраўдны падарунак. На зімовых канікулах у "Радзіме" будуць амаль штодзённа дэманстравацца лепшыя займальныя фільмы, якія ў звычайныя дні нельга ўбачыць на дзіцячым сеансе, па зніжанаму кошту білета.***

Амерыканскія баявік "Тры ніндзя", камедыю "Паліцэйскі сабака" і іншыя ўсяго за 400 рублёў дзеці маюць магчымасць пагледзець толькі ў гэтыя дні. Серыя з сямі карцін складае канікулярны прагляд. Абанементскае запрашэнне на ўсе (з 1 па 7 студзеня) каштуе 2800 рублёў. (Звычайна, як ведаюць аматары, білет на адзін сеанс каштуе 5 тысяч).

Набыць абанемент на канікулярны прагляд можна ў кінатэатры "Радзіма". А можна спыніцца на адной з карцін, па жаданню. Раім не прапусціць лепшую— прэм'еру фільма ЗША "Андрэ" 2-га студзеня ў 11.30. Прагляд стане добрым адпачынкам і дзецям, і дарослым.

***Аддзел інфармацыі***

Архівы сведчаць

## Тайна забойства ля Страчанкі

*(Працяг. Пачатак у № 35)*

Дырэктар цагельнага завода Пётр Дыганаў яшчэ некалькі хвілін жыў. Сцякаючы крывёю ляжаў ля прыдарожнага дрэва. Збянтэжаны бухгалтар прыхапкам вырашыў бегчы ў бліжэйшую вёску Страчанку. А вось што казаць пра здарэнне— не ведаў.

Прабег метраў чатырыста. Адразу за мастком твар у твар сутыкнуўся з селянінам Міхаілам Котам і яго сынам-падлеткам.

–Гэта хто страляў?

–Нашага дырэктара забілі,– крыху аддыхаўся, а потым адказаў Блахін. У горле перасохла.– Тут недзе мой сябар з канём... Скажыце яму, каб ехаў у Страчанку.– І пабег.

Стары Кот насцярожыўся, спыніў сына.

–Пачакай, сынку. Тут нешта робіцца...

На дарозе паказалася фурманка. Гэта Марыя Радзівонава, да якой хвіліну назад Дыгагаў і Блахін заварочвалі на хутар Чорная Лужа, ехала да Руновіча, каб забраць вагі. Яна прыцішыла ход, але не спыніла каня. Толькі зірнула на цела. Вырашыла, што нежывы. І паехала далей.

–Хто там ляжыць?– сустрэў яе запытам Кот.

–Дыганаў. Дырэктар цагельнага завода ў Кісялях.

Бацька з сынам назіралі.

Аднекуль прыбегла жанчына. Схілілася над целам Дыганава. Расшпіліла яму кіцель. На белай кашулі вызначалася пляма крыві. У гэты момант сэрца былога франтавіка, дырэктара і камуніста спынілася. Жанчына паднялася з каленяў. Узяла вайсковую фуражку Дыганава, што ляжала побач, і пайшла.

Ціхі і мерны чэрвеньскі вечар у Вёсцы Страчанка быў перарваны нечаканай весткай аб забойстве. Да мясцовага дэпутата Паўловіча прыбеглі два хлопцы. Старэйшы адрэкамендаваўся бухгалтарам Блахіным, больш ціхі русы юнак– Валодзем.

–Вы дэпутат? Дайце каня. Бандыты стралялі ў дырэктара Дыганава. Трэба абвясціць міліцыю.

Хутка фурманка з дэпутатам Альвінам Паўловічам, яго братам Бярнардам і двума хлопцамі накіравалася на месца здарэння. Па дарозе да іх падсела жанчына. Як вызначылі Паўловічы, Домна– Валодзіна маці.

–Дыганаў памёр на маіх руках. Я фуражку яго ўзяла, каб жонцы аддаць. Мы ж з імі ў адной хаце жывём.– І пачала галасіць.

Насустрач ім едуць фурманкі з будоўлі. Людзі працуюць на сваіх кавалках зямлі ля дарогі. Сёстры Ядвіга і Станіслава Нябесскія ля жыта шчаўе збіраюць. Заўважылі фурманку. Углядаюцца.

–Ці чулі вы? Дырэктара забілі,– звярнулася да іх Домна..

Так. Яны чулі. І бачылі...Ядвіга нічога не адказала, але доўгім позіркам свярдзёліла жнчыну на фурманцы. Як жа, пазнала. Гэта ж учарашняя варажбітка, што па хатах хадзіла. Варажыла за кавалак хлеба і яйкі. А цяпер не нагадвае жабрачку...

Браты Паўловічы засталіся дзяжурыць ля цела Дыганава. У свірскую міліцыю паехалі хлопцы і Домна. У дваццаць дзве гадзіны на месцы здарэння было ўжо шмат людзей. Прыехала начальства. Начальнік крымінальнага вышуку маёр Бычкоў. Начальнік свірскага РА МУС Лявонаў. Галоўны ўрач свірскай бальніцы Бажко. І з імі яшчэ... Склалі пратакол здарэння.

Чуткі пра забойства ўжо блукалі па мястэчку Свір. Цешча забітага дырэктара Дыганава не знаходзіла сабе месца. Яе палохала доўгая адсутнасць сына Андрэя.

Пачало змяркацца. Фядосся Белікава пабегла сустракаць карову з поля. Напаткала суседа.

–Андрэя не бачылі?

–Не...

–Не ведаю, што рабіць. З абеду пайшоў і знік. А тут, кажуць, зяця майго забілі.

Віктара Блахіна, як асноўнага сведку, а магчыма і падазронага, па Свіры вялі пад канвоем. Ля міліцэйскай дзяжуркі чакаў швагер Дыганава Андрэй Белікаў.

–Ну як, Віця?– выразна спытаў малога і запалоханага бухгалтара моцны і ўпэўнены ў сабе Андрэй. Супрацьстаянне позіркаў першым не вытрымаў Блахін.

*(Працяг будзе)*

***Святлана САРОКА***

Для тых, хто верыць Месяцу

## Месяцавы каляндар на студзень 1996 года

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Панядзелак<br>Мес.дзень | 1<br>14.47<br>12 | 8<br>20.46<br>19 | 15<br>3.41<br>25 | 22<br>10.14<br>3 | 29<br>13.23<br>10 |
| Аўторак<br>Мес.дзень | 2<br>15.20<br>13 | 9<br>21.51<br>20 | 16<br>4.57<br>26 | 23<br>10.42<br>4 | 30<br>14.01<br>11 |
| Серада<br>Мес.дзень | 3<br>16.02<br>14 | 10<br>22.58<br>21 | 17<br>6.09<br>27 | 24<br>9.59<br>5 | 31<br>14.47<br>12 |
| Чацвер<br>Мес.дзень | 4<br>16.50<br>15 | 11<br>23.56<br>22 | 18<br>7.15<br>28 | 25<br>11.31<br>6 | |
| Пятніца<br>Мес.дзень | 5<br>17.38<br>16 | 12<br>- | 19<br>8.14<br>29 | 26<br>11.49<br>7 | |
| Субота<br>Мес.дзень | 6<br>18.41<br>17 | 13<br>1.16<br>23 | 20<br>9.02,<br>18.02<br>30;1 | 27<br>12.21<br>8 | |
| Нядзеля<br>Мес.дзень | 7<br>19.42<br>18 | 14<br>2.28<br>24 | 21<br>9.42<br>2 | 28<br>12.51<br>9 | |

Усход Месяца— для Маладзечна

**Крытычныя дні:** 9, 15, 19, 23, 29— патрабуюць асцярожнасці і абароны

**Спрыяльныя дні**: 6, 10, 12, 16, 17, 30— даюць добрую энергію і падтрымку светлых сіл.

### Месяц у знаках Задыяка

| ДАТА | 2 | 4 | 7 | 9 | 12 | 14 | 16 | 18 | 20 | 22 | 24 | 27 | 29 | 31 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ЗНАК | ♊ | ♋ | ♌ | ♍ | ♎ | ♏ | ♐ | ♑ | ♒ | ♓ | ♈ | ♉ | ♊ | ♋ |

### Медыцынскі зрэз Месяца ў знаках Задыяка

**Месяц у Блізнятах.** Супрацьпаказаны лёгачныя і дыхальныя (пранаямы) працэдуры. Абцяжарана дыханне. Пакутуем ад выхлапаў аўтатранспарту (будзьце падалей ад праспектаў і аўтамагістраляў). Уразлівыя плечы, рукі. Можна абліваецца вадой, калі Месяц у знаках Блізнятаў, Шаляў, Вадалея. Хадзіць у лазню. Мыць бялізну.

**Месяц у Раку.** Уразлівы страўнік. Забаронены аперацыі на страўніку, біяэнергетычнае лячэнне, ужыванне алкаголю і хімічных прэпаратаў. Дазволена лячыць і выдаляць зубы, устаўляць пратэзы.

**Месяц у Ільве.** Беражыце сэрца, асцерагайцеся радыкулітаў. Ашчаджайце фізічныя сілы. Спрыяльны час для лячэння галёнак, сустаўных хвароб, хвароб органаў зроку.

**Месяц у Дзеве.** Уразлівы кішэчнік і кішэчна-страўнікавы тракт (акрамя прамой кішкі). Забаронены аперацыі на брушной поласці (аперацыі апендыцыта). Можна ачышчаць кроў і печань, лячыць скураныя захворванні.

**Месяц у Шалях**. Уразлівыя ныркі і эндакрынная сістэма, асабліва падстраўнікавая залоза. калі хтосці займаўся сухім галаданнем і трэба з яго у гэты час выходзіць, то гэта павінна быць зроблена вельмі граматна, інакш «пасадзіце» падстраўнікавую залозу, дазваляецца рабіць пластычныя аперацыі, вырываць зубы, лячыць вушы, рабіць стойку на галаве, калі няма агульных супрацьпаказанняў— пазбаўляцца ад збыткоўнай вагі.

**Месяц у Скарпіёне**. Уразлівыя палавыя органы. У гэты час трэба абмежаваць або выключыць секс. Час абвастрэння гемарою. Могуць з'явіцца запоры. Можна выдаляць гланды, адэноіды, лячыць гаймарыты, насмаркі, рыніты.

**Месяц у Стральцы.** Нельга лячыць хваробы крыві і печані. Забараняюцца аперацыі на гэтых органах. Забараняюцца пераліванне крыві, донарскія працэдуры. Можна лячыць лёгкія.

**Месяц у Казярогу**. Уразлівы жоўцевы пузыр, скура, косці. Нельга лячыць зубы (усе віды аперацый) і пазваночнік. Небяспечна звяртацца да знахараў з нагоды касцей і пазваночніка. Можна лячыць страўнік, гастрыт, язву. Можна пайсці ў госці, у рэстаран.

**Месяц у Вадалеі**. Беражыце суставы, ногі, нервовую сістэму, вочы. Нептун у экзальтацыі, можна лячыць вадой (асабліва магнітнай, царкоўнай). Дазваляецца нагружаць сэрца, фізічныя практыкаванні.

**Месяц у Рыбах**. Не рэкамендуецца піць алкаголь і шмат вадкасці. Уразлівая скура, павышаецца небяспека алергій. Нельга рабіць аперацыі на печані і нагах. Насіце мяккі абутак, інакш— мазалі. Пачашчаюцца грыбковыя захворванні. Забараняецца масаж ног, водныя працэдуры, наркотыкі, вадкія лекі.

**Месяц у Авене.** Уразлівая галава і твар. У поўню нельга рваць зубы, стрыгчы валасы на галаве, праводзіць маніпуляцыі на вушах. лепш усяго стрыгчыся, калі месяц расце, але не ў Авене. Трэба менш чытаць. можна рабіць аперацыі на нырках.

**Месяц у Цяльцы.** Беражыце горла і ўсю эндакрынную сістэму. нельга праводзіць аперацыі на шыі і горле. Нельга ў гэты час выдаляць радзімкі на шыі. Нельга пачынаць галаданне ў гэты час. Ужываць толькі добрыя стравы. Дазваляюцца аперацыі з палавымі органамі.

*Іван ШУБЦІК, Маладзечна*

**УВАГА! У наступным нумары "РГ" будзе змешчаны табель-календар на 1996 год.**

***Пытайцеся нашу газету ў кіёсках "Белсаюздруку"***

## Першы выпускнік Гродзенскай семінарыі адправіў сваю службу ў Вілейцы



*23 снежня 1995 увойдзе ў летапіс рымска-каталіцкага касцёла перамогай духоўнага адраджэння хрысціянскай веры. У гэты дзень у вілейскім касцёле правёў сваё першае богаслужэнне малады ксёндз Павел Халявін, гадаванец з першага выпуску беларускай Гродзенскай семінарыі.*

На ўрачыстасці прысутнічалі не толькі вернікі-вілейчане, але і з многіх парафій Беларусі і з-за яе межаў, хрысціяне іншых канфесій, дэпутаты ВС, РБ Генадзь Карпенка, Уладзімір Варашнін, старшыня гарвыканкома Пётр Юдо, святары з Мінска, Маладзечна, Латвіі, Польшчы, Італіі, клірыкі Гродзенскай семінарыі.

Ксёндз Павел нарадзіўся 23 сакавіка 1966 года ў Гомелі, у год— патаемна прыняў хрост. На духоўную сцяжынку яго настаўлялі родная цётка Эвеліна Бжазоўская з Маладзечна і маладзечанскі ксёндз-дэкан Эдмунд Даўгіловіч-Навіцкі.

Упрыгожаны кветкамі, зелянінай, цудоўна асветлены касцёл надаваў урачыстаць гэтай падзеі. Перад службай насустрач маладому ксяндзу ў ганаровай працэсіі выйшлі з касцёла вернікі разам са святарамі і клірыкамі. Усе разам накіраваліся да рызніцы, дзе чакаў увядзення да алтара ксёндз Павел. Пасля ўрачыстага абраду перад рызніцай і матчынага блаславення ўсе накіраваліся да цэнтральнага ўвахода храма, да алтара. У гэты час са званіцы праваслаўнай царквы раздаўся гук званоў, што абвяшчаў далёка- далёка радасную вестку аб з'яўленні сярод хрысціян новага духоўнага пастыра. Урачыстасць суправаджалася духоўнымі песнямі на лаціне, беларускай і польскай мовах.

Пасля богаслужэння са словамі прывітання і пажадання плёну ў рабоце на пастырскай ніве звярнуліся святары і парафіяне.

Урачыстае богаслужэнне закончылася цырымоніяй ускладання ксяндзом Паўлам з блаславеннем Папы Рымскага Яна Паўла II сваіх рук на галовы кожнага з прысутных. Вялікае права гонару блаславення ад імя намесніка Хрыста ксёндз атрымлівае адзін раз у жыцці, пры сваім першым богаслужэнні. Ксёндз Павел выбраў для гэтага касцёл у Вілейцы.

Шлях да гэтай урачыстасці быў цярністым і нялёгкім. Цяжкі час праследавання рэлігіі пачынае адыходзіць. На нашай Беларусі з'яўляюцца першыя ўсходы на пастырскай ніве. Мы ўжо маем першых сваіх святароў, якія выраслі побач з намі, якія знаюць нашы радасці і гора, якія разам з намі будуць ісці і ўказываць на шлях дабра і праўды да духоўнага хрысціянскага адраджэння.

*Таіда АКУНЕВІЧ, парафіянка.*

Крымінал

## Медзь не таннее

***На чорным рынку яна па-ранейшаму карыстаецца попытам. Нават тая, што набыта яўна крымінальным шляхам.***

Ноччу ў мінулую пятніцу з тэрыторыі Маладзечанскага УВТК злачынцы ўхітрыліся зняць 30 метраў меднага дроту прама з вежавага крана КВ-100, да якога быў падключаны дрот. Вандроўнікам за меддзю спрыяў вольны доступ на тэрыторыю прадпрыемства.

***Аддзел інфармацыі***

Скаўтынг

## Толькі наперад!

***З 1988 года пачалося адраджэнне скаўцкага руху на Беларусі. Узніклі дружыны Усебеларускага Саюза Скаўтаў, Гродзенская харугва імя Д. Гарадзецкага, харугвы Аб'яднання Беларускіх скаўтаў. З 1992 года пачалося стварэнне дружыны скаўтаў пры Маладзечанскай Беларускай гімназіі.***

"Уша-93", "Вілія", "Пітэр Пэн", злёт у "Зубраняці"... Шмат чаго было за гэтыя гады. Адны патрулі (пачатковая адзінка) ўмацоўваліся, раслі, другія, нажаль, разыходзіліся. Што зробіш, усе павінны працаваць аднолькава і разам. Ёсць справы цікавыя, а ёсць неабходныя, можа, трохі нудныя, як і ў жыцці. Не зробіш ты, павінен рабіць нехта (а матулі ці бабулі побач няма)...

На цяперашні час дружына "Маладэчына" складаецца з Круга ровераў (старэйшых скаўтаў) і атрада імя Т. Касцюшкі (малодшых), а таксама групы падтрымкі— Круг бацькоў і Круг сяброў. Бацькі, зразумела,— дапамога і кантроль, дзеці-то свае. А сябры, тыя, каму не абыякавы лёс дзяцей. Гэта Яфім Ідэльчык, Валерый Альшэўскі (гарвыканком), Аляксандр Грыгор'еў (камандзір в/ч), Іван Машко (дырэктар ЖБВ "Сельбуд"), Генрых Богдан ("Прыорбанк"), Барыс Вайцяхоўскі— дырэктар гімназіі (шэф-скаўт, дарэчы). Дзякуючы такой падтрымцы цікавае ў скаўтаў і кадэтаў жыццё. Адных летнікаў колькі: "Уша-95", "Вілія-95", "Бесконечная история" (літаратурны), "Белае возера" (азёрны). Адкуль грошы і прадукты? Бацькі, вядома, гарвыканком і "Прыорбанк".

Можа, хто зацікавіўся, хоча сам паспрабаваць? Пішыце: Маладзечна, вул. Б. Хмяльніцкага, 20, гімназія, скаўтам. Ці тэлефануйце 67825 (вечарам)

Віншуем усіх з Калядамі і Новым годам! Цікавых сустрэч на старонках "РГ".

*Начальнік дружыны "Маладэчына" скаўтмайстар Валерый ТРАЦЯК.*

Да навагодняга стала

## "Рафаэла"- гэта вельмі проста

***Амаль штодзённа чуем з экранаў тэлевізара, што цукеркі "Рафаэла"— гэта спакуса. Хто спрабаваў іх, скажа, што смачна, але вельмі дорага. Я прапаную вам свой рэцэпт прыгатавання крэма, які па смаку— тыя самыя цукеркі.***

Зрабіце звычайны крэм, які выкарыстоўваюць хатнія гаспадыні, згушчанае малако з цукрам (лепш не варанае), узбітае з маслам. Змяшайце яго з нацёртым на тарку (не вельмі буйную) какосавым арэхам. Дастаткова паловы масы аднаго арэха.

Набыць арэх можна сёння за 8 тысяч рублёў у камерцыйных харчовых пунктах. (Адна маленькая цукерачка каштуе каля 3-х тысяч). І яго хопіць на вялікі цудоўны святочны торт. Той, хто ўпершыню спрабуе какос, памятайце, што спачатку ў ім трэба зрабіць дзірку, зліць сок. І толькі потым раскалоць какос.

Для набліжэння смака да сапраўдных "Рафаэла" на крэм можна зрэдку пакласці лясны арэх, і торт упрыгожыць астатняй масай цёртага беласнежнага какосу, што нагадвае снег. Упэўнена, спадабаецца вам і вашым гасцям.

*Святлана САРОКА*

# Калі ласка, ў нашу хату— жартуюць урачы-псіхатэрапеўты

***—Тата, ты што, інтэрв'ю ў бульбы бярэш?— спытала дачка, калі я, рыхтуючы ежу, мармытаў штосьці сабе пад нос.***

Адыходзячы да сну, усё часцей пытаюся ў жонкі, ці выключыла яна электрычнасць, ці завяла гадзіннік.

Магу з вуліцы вярнуцца на лесвічную пляцоўку і праверыць, ці замкнуў я дзверы кватэры. Што са мною адбываецца? Можа, мне патрэбна медыцынская дапамога? З гэтым і іншымі пытаннямі я звярнуўся да Сяргея Цвірко, урача-псіхатэрапеўта Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера.

—Сяргей Іванавіч, у мяне— неўралагічныя ці псіхічныя расстройствы, можа, ўсё разам?

—Колькі часу за дзень вы думаеце аб незачыненых дзвярах, не выключанай электрычнасці?

—Зранку і ўвечары па хвіліне.

—Няма падставы, каб хвалявацца. Калі б думалі ў агульнай складанасці гадзіну, тады, калі ласка, да нас. Вы— наш кліент. А што тычыцца неўралагічных расстройстваў, гэта калі чалавек разумее сутнасць сваіх учынкаў і яму неабходна кваліфікаваная дапамога. І калі весці гаворку аб сімптомах, у першую чаргу вызначу такія: адсутнасць добрага настрою, апетыту, раздражняльнасць, агульная млявасць, неглыбокі сон.

—Ці можна пазбавіцца гэтага самастойна, без вашай дапамогі?

—Раю змяніць сваё месцазнаходжання, бо патрэбны новыя ўражанні. Трэба нармалізаваць адпачынак. Часцей ужывайце гарбату, адвар карэнняў валер'яны, пустырнік, гуляйце на свежым паветры.

—А ці можам сюды дадаць рэгулярныя заняткі сексам?

—Абавязкова. Але больш правільна сказаць— наладзіць інтымнае жыццё.

—Я назіраў за некаторымі жанчынамі бальзакаўскага ўзросту, якія не маюць сям'і, дзяцей. Ведаеце, іх добра выкарыстоўваць на адміністратыўных пасадах, кідаць на вытворчасць, туды, дзе патрэбны план. Ну, быццам, жандармы ў спадніцах, хай яны на мяне крыўдзяцца. Іх агрэсіўнасць, жорсткасць у паводзінах ад таго, што не наладжана інтымнае жыццё, арганізму патрэбны неабходныя вітаміны?

—Вузка бачыце сітуацыю. Тут ёсць рэакцыя гіперкампенсацыі, калі няўдачы ў адной галіне кампенсуюцца перамогай у другой. Проста жанчыны акрэсленай вамі катэгорыі больш сур'ёзна ставяцца да сваёй работы, чым тыя, што сваю энергію накіроўваюць на сям'ю, дзяцей, а потым ужо на работу.

—Людзі якога сацыяльнага ўзроўню часцей наведваюць вашу ўстанову?

—Безумоўна, інтэлігенцыя. Чым вышэй сацыяльнае становішча, тым вышэй сацыяльныя дамаганні. І калі яны не рэалізуюцца, узнікаюць неўралагічныя расстройствы. Прыкладаў можна прывесці многа: не выпучылі чалавека дэпутатам, а ён гэтага і жадаў, і чакаў— зрыў. Узрост нашых наведвальнікаў у асноўным 28-45 гадоў. Вось лічыце: 19 % жыхароў ЗША пакутуюць на псіхічныя расстройствы, 7-9 % звяртаюцца да дапамогай за ўрача, 1 % лечыцца ў стацыянары, 11% маюць неўрозы, 6 % алкаголікаў. У нас падобная сітуацыя. Толькі што неўрозаў я вызначыў бы 25 % і алкаголікаў у нас значна больш.

—У Маладзечне, Вілейцы, Смаргоні...— дзе, на ваш погляд, больш складаная сітуацыя?

—Скажу так: чым вышэй індустрыялізацыя, тым больш неўратызацыя. І наадварот. Імкніцеся весці здаровы лад жыцця, разумею, як гэта цяжка. Але, як кажуць, ваша здароўе— у вашых руках.

*Васіль САВІЦКІ.*

